# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№8 (219)

жнівень 2020

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб’яднанне “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”



## У НУМАРЫ:



Ва ўмовах пандэміі COVID-19 Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” працягвае сваю працу, але, выконваючы рэкамендацыі СААЗ, у рэжыме самаізаляцыі.

Беражыце і вы сябе таксама!

#будзьмадома




# ГЭТА НЕЗВАРОТНА...

Дашукваецца прычынаў, адказваць на пытанне, якім чынам Беларусь перамянілася літаральна за лічаныя дні, будуць гісторыкі і сацыёлагі. Але відавочна, што Беларусь на пачатку верасня гэта зусім не тая краіна, у якой многія з нас жылі раней. Гэта незваротна новая Беларусь.

Не ўяўляецца магчымым ужыць звыклы штамп, узяць ды напісаць, што “вось ужо цягам месяца нашу Бацькаўшчыну штодня скаланаюць шматтысячныя пратэсты”. “Скалананне”, “разгойдванне”, “дэстабілізацыя” ды іншыя клішэ не пасуюць для апісання высокай годнасці ў паводзінах вулічных пратэстоўцаў, іх незлічонай колькасці, выкшталцонасці лозунгаў ды плакатаў, гнуткасці і тэхналагічнасці форм выразу пратэсту, падманлівай крохкасці вынікаў мірнага выражэння сваіх патрабаванняў. Карціна беларускіх пратэстаў заварожвае, наталяе надзеяй, непераадольна вабіць далучыцца да гэтай прыгажосці і зрабіцца яшчэ адной кветкай на бяскрайнім белым полі з сям-там раскіданымі чырвонымі пасачкамі.

Як і вы, мы пра новую Беларусь ведаем пакуль няшмат.

Ведаем, што бальшыня новых беларусаў мае бела-чырвона-белы сцяг і пры патрэбе бароніць яго. Што для выпадковага мінака ў новай Беларусі не праблема заспяваць хоць “Купалінку”, хоць “Пагоню”, хоць “Магутны Божа” – ён ведае тэкст і матыў. Што ў новай Беларусі вечарамі ў дварах гучаць песні беларускіх выканаўцаў, пакуль жыхары на практыцы вучацца мясцоваму самакіраванню. У выпадку небяспекі ў новай Беларусі дапамога прыйдзе ад таксіста, які давязе задарма, ад уладальніка кавярні, які накорміць і напоіць кавай “за так”, ад жыхароў найбліжэйшага пад’езду, якія затуляць фіранкі, каб ніхто не дазнаўся, што ў іх начуць незнаёмы чалавек, які мае патрэбу ў абароне...

Усё гэта бачыць цэлы свет, у вялікай ступені дзякуючы вам, шаноўныя беларусы замежжа. І хоць у Беларусі блакавалі інтэрнэт і доступ да незалежных рэсурсаў, ваша штодзённая дапамога ў барацьбе з беззаконнем не прайшла міма ўвагі ўдзячных суайчыннікаў.

Так, сёлетнія выбары ў Беларусі ўвойдуць у сусветную гісторыю не ў якасці адмоўнага прыкладу. Шмат што забудзецца з таго, што адбываецца зараз, але ў памяці назаўжды застанецца гэтае як выбух, усеагульнае паўстанне беларускай нацыі, грамадзянскай супольнасці, усясветнай беларускай нацыянальнай салідарнасці і шчырага братэрства...

Калі рыхтаваўся гэты выпуск “Беларусаў у свеце”, які мусіў быць аглядам падзей у асяродках беларускага замежжа, дзеючы кіраўнік дзяржавы гутарыў з прадстаўнікамі замежных медыяў. На іх закід пра неапраўданы гвалт у дачыненні да свайго народу з боку кіраўніцтва дзяржавы, войска і міліцыі, ад якога пацярпелі і замежныя журналісты таксама, ён сказаў “давайце перагорнем гэтую старонку”.

Гэты спецвыпуск “Беларусаў у свеце” падрыхтаваны так, каб вы пабачылі Беларусь вачыма тых, хто прызвычаіўся бачыць яе здалёк, і мелі неасцярожнасць у жніўні гэтага года пабачыць яе знутры. І гэта наймізэрная частка з тых сведчанняў, якія задакументаваныя праваабаронцамі. Для нас важна мець у бібліяграфіі выпуск, які будзе сведчыць пра тое, што за за цэлы месяц гвалту над мірнымі пратэстоўцамі не было заведзена ніводнай крымінальнай справы ў дачыненні да тых, хто чыніў гэты гвалт – да праваахоўных структур.

Інфармацыйны цэнтр
МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# ЗВАРОТ ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

Шаноўныя сябры!

Мы упэўненыя, што вы ўважліва сочыце за падзеямі на Радзіме і яны не пакідаюць вас абыякавымі, бо пры ўсёй шматстайнасці нашых палітычных поглядаў, усіх беларусаў яднае адно – мы жадаем дабра і росквіту сваёй Радзіме і яе народу.

Зараз Беларусь праходзіць праз падзеі гістарычнага маштабу, якія вельмі моцна паўплываюць на яе будучыню: грамадства яднаецца і хоча, каб яго голас урэшце займеў палітычную вагу. Аднак на мірныя пратэсты дзейсная улада адказала беспрэцэдэнтным гвалтам, які ад пачатку выбараў не спыняецца на вуліцах нашых гарадоў: напады і збіццё мірных грамадзян на вуліцах і ў турмах, прымяненне да іх фізічных і псіхалагічных катаванняў. Усяму гэтаму не можа быць месца ў нашай з вамі краіне.

Ведаем, што нават знаходзячыся за многія кіламетры ад Беларусі, сэрцам вы заўжды на Радзіме. Многія з вас ужо арганізоўвалі або бралі ўдзел у акцыях салідарнасці з беларускім народам у гарадах свайго пражывання. Важна, каб геаграфія такіх акцый пашыралася. Заклікаем вас не толькі не спыняцца, а зрабіць акцыі салідарнасці бесперапыннымі!

Сёння наша салідарнасць важная як ніколі раней. І падтрымка беларусаў замежжа надзвычай неабходная. Трэба, каб увесь свет даведаўся пра тое, што зараз адбываецца ў нашай краіне. І менавіта вы, беларусы замежжа, можаце паспрыяць гэтаму, як ніхто іншы, бо пасольствы і дыпламатычныя місіі гэта не зробяць, і менавіта вы – дзеці сваёй Радзімы, беларусы замежжа, на сёння сталі амбасадарамі інтарэсаў Беларусі ў свеце.

Акрамя бесперапынных акцый салідарнасці, ёсць яшчэ два простыя спосабы, якімі кожны з вас можа дапамагчы Беларусі:

1. Па-за межамі Беларусі дзейнічае незалежная дабрачынная ініцыятыва BY_help (https://www.facebook.com/BYhelpBY/ ), якая збірае ахвяраванні па ўсім свеце на дапамогу пацярпелым ад масавага тэрору беларусам.

Калі ласка, падтрымайце гэты фонд. Дзякуючы вашым ахвяраванням ініцыятыва BY_help зможа дапамагчы пацярпелым не страціць надзею.

2. Перакладайце навіны пра тое, што адбываецца ў Беларусі, на мовы краін свайго пражывання, і максімальна шырока распаўсюджвайце. Прыкладны тэкст для перакладу пра сітуацыю у Беларусі мы дадаем да гэтага звароту (https://tinyurl.com/situacyja).

Гаварыце пра Беларусь, пішыце пра Беларусь, распаўсюджвайце інфармацыю пра Беларусь праз інтэрнэт, у размовах з вашымі суграмадзянамі, звяртайцеся да нацыянальных лідараў сваёй краіны з патрабаваннем актыўных палітычных дзеянняў у дачыненні да арганізатараў фальсіфікацый і тэрору ў Беларусі.

У вашых сілах зрабіць так, каб голас вольнай Беларусі быў пачуты ў свеце.

Будзьма разам! Будзьма салідарнымі!

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

**P.S.**

ЗБС "Бацькаўшчына" атрымала ад Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь адказ на гэты зварот.

Занепакоенасць грамадскіх арганізацый з-за спробаў уладаў унесці раскол у беларускае грамадства (якія выявіліся ў запалохваннях, быццам сёлетні мірны пратэст мае на мэце гвалтоўную беларусізацыю, насаджэнне бел-чырвона-белага сцяга і ўціск рускамоўнага насельніцтва) была ўспрынята Галоўным упраўленнем ідэалагічнай работы Міністэрства Абароны як "вельмі вольная і сумнеўная трактоўка падзей, якія адбываюцца ў нашай краіне".

Следам за запэўненнямі ў тым, што "дзеючая ў Рэспубліцы Беларусь сістэма дзяржаўнай улады ў поўнай меры кантралюе сітуацыю, якая склалася, прымае неабходныя меры па яе стабілізацыі", тым, што "інфармацыя, выкладзеная ў звароце вывучаная і прынятая да ведама", а таксама апеляцыі да вынікаў рэферэндума 1995 года, Міністэрства абароны паведаміла, што: "менавіта афіцыйныя знакі дзяржавы – Дзяржаўны сцяг і Дзяржаўны герб Рэспублікі Беларусь аб'ядноўваюць усіх грамадзян нашай краіны ў імкненні і жаданні рабіць усё лепшае ў імя росквіту нашай каханай Беларусі".

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

# ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА" ПАТРАБУЕ АД АНДРЭЯ РАЎКОВА ВЫБАЧЫЦЦА ПЕРАД ДЫЯСПАРАЙ

24 жніўня дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь Андрэй Раўкоў апублікаваў у сваім фэйсбуку пост адносна беларускай дыяспары, з якога вынікае, што ўдзельнікі пратэсных акцый у розных краінах свету "нічога не зрабілі для сённяшняй краіны, а ўвесь іх настальгічны "патрыятызм" раптоўна успыхвае, калі папросяць".



Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" як арганізацыя, якая ўжо цягам амаль 30 год актыўна супрацоўнічае з беларускай дыяспарай, абураная такім публічным выказваннем, якое зневажае нашых суайчыннікаў.

Гэтым лістом паведамляем спадару Раўкову, што Беларуссю былі прыняты цэлы шэраг праграмных дакументаў па супрацоўніцтве з беларусамі замежжа, да якіх можна аднесці і прынятыя ў розныя часы дзяржаўныя праграмы "Беларусы ў свеце", дзе пра беларускую дыяспару вядзецца гаворка як пра "важны нацыянальны, інтэлектуальны, сацыяльна-культурны, дэмаграфічны і эканамічны рэсурс Рэспублікі Беларусь", і закон "Аб беларусах замежжа", скіраваны на ўмацаванне сувязяў нашай краіны з тымі, хто "даўным-даўно тут не жыве".

Дапускаем, што для Андрэя Раўкова гэта не "профільныя" дакументы. Тады можна звярнуцца да Канцэпцыі нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь, у якой аслабленне нацыянальна-культурнай ідэнтычнасці беларускай дыяспары расцэньваецца як знешняя крыніца пагрозы нацыянальнай бяспецы ў сацыяльнай сферы, а таксама вядзецца гаворка пра "рэалізацыю доўгатэрміновай стратэгіі спрыяння ў развіцці беларускай дыяспары".

Дапускаем, што Рада бяспекі цікавіцца не толькі ўнутранымі працэсамі ў Беларусі, але і знешнімі, і назірае сучасныя знешнепалітычныя трэнды, а менавіта: як дыяспары іншых дзяржаў становяцца важным складнікам эканамічнага і культурнага пад'ёму краін свайго паходжання, садзейнічаюць развіццю міжнародных стасункаў.

Дапамога беларусаў замежжа нашай краіне толькі за перыяд ад абвяшчэння незалежнасці (ад 1991 г.) ахоплівае цэлы спектр галін: ад дапамогі пацярпелым ад Чарнобыльскай аварыі да мецэнацтва і спрыяння ў развіцці беларускай навукі і мастацтва. Беларусы замежжа першымі адгукаюцца на патрэбы Беларусі, беларускага грамадства. Згадайма толькі два апошнія выпадкі:

• каля 80 000 даляраў былі пералічаны дыяспарай у дапамогу беларускім медыкам у змаганні з вірусам Covid-19, у той час як беларускія дзяржаўныя структуры дэманстравалі няздольнасць своечасова забяспечыць дактароў сродкамі абароны, рэтранслюючы сумнеўныя парады па прафілактыцы хваробы ад прадстаўнікоў найвышэйшага кіраўніцтва;

• каля ста тысяч даляраў былі пералічаны беларускай дыяспарай у дапамогу ўдзельнікам мірных акцый, якія пацярпелі ад неапраўдана жорсткага абыходжання сілавых структур, ад прымянення спецсродкаў і катаванняў. У той час як сённяшняя ўлада не завяла ніводнай крымінальнай справы па фактах перавышэння паўнамоцтваў сілавымі структурамі і не выказала ні слова спагады пацярпелым.

І гэта толькі два прыклады за апошні час.

Звяртаемся да спадара Раўкова з настойлівай рэкамендацыяй:

1. Уважліва азнаёміцца з раздзелам на сайце МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" "Дыяспара для Беларусі" (https://zbsb.org/info), дзе акумулюецца інфармацыя пра найбольш значныя крокі/захады беларусаў замежжа ў справе дапамогі самой Беларусі, як краіне, так і асобным ініцыятывам, установам і проста людзям. У выпадку неабходнасці, гатовыя даць пашыраную кансультацыю па гэтым пытанні.

2. Выдаліць зневажальны пост на сваёй старонцы ў фэйсбуку.

3. Выбачыцца публічна за некампетэнтную ацэнку заслуг нашых суайчыннікаў за мяжой.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# СПЫНІЦЬ СПРОБЫ РАСКОЛУ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСТВА

Апошнім часам усё часцей з боку ўладных структур Беларусі на самым высокім узроўні мы чуем запалохванні ў тым, што сёлетні мірны пратэст за справядлівыя выбары адною са сваіх мэтаў мае гвалтоўнае насаджэнне бел-чырвона-белага сцяга і беларусізацыю, як уціск рускамоўнага насельніцтва. Такім чынам улады хочуць адцягнуць увагу ад наяўных праблем і патрабаванняў грамадзян правесці новыя справядлівыя і празрыстыя выбары прэзідэнта краіны і прыцягнуць да адказнасці ўсіх вінаватых у гвалце над сваім народам.

Больш за тое, чым часцей гучаць такія заявы, тым больш нарастае ўпэўненасць, што ўлады спрабуюць правесці прапагандысцкі раскол у беларускім грамадстве, – так, як гэта было ва Украіне зусім нядаўна. Навязваючы і распаўсюджваючы ілжывую інфармацыю, улады імкнуцца пасеяць варожнечу сярод удзельнікаў мірнага пратэсту, а таксама, што найбольш важна, паказаць вонкавым назіральнікам, у першую чаргу – расійскім, што ў Беларусі на дадзены момант існуе неабходнасць у актыўным умяшальніцтве ва ўнутраныя справы, у тым ліку вайсковым.

Мы перакананыя, што нацыянальныя сімвалы Беларусі, бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня", унесены самой уладай у спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў, служаць грамадству толькі дзеля яго яднання і кансалідацыі, што паказваюць і мірныя акцыі пратэсту, дзе нашыя старажытныя сімвалы трывала замацаваліся і актыўна выкарыстоўваюцца ўсімі пакаленнямі дэманстрантаў.

Гэтаксама і беларуская мова служыць толькі мэтам яднання і з'яўляецца бясспрэчнай каштоўнасцю беларускай нацыі.

Мы, Саюз беларускіх пісьменнікаў і Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", патрабуем спыніць усякія спробы ўнесці раскол у беларускае грамадства. Лічым, што такія маніпуляцыі з каштоўнасцямі беларускага народа шкодзяць міждзяржаўным стасункам і нясуць пагрозу суверэнітэту нашай краіны.

Мінск, 23.08.2020.

# СПЫНІЦЬ ГВАЛТ І БЕЗЗАКОННЕ Ў НАШАЙ КРАІНЕ!

Заява кіраўнікоў грамадскіх арганізацый і творчых саюзаў Беларусі.

«У нашай краіне адбываюцца драматычныя, трагічныя падзеі, прычынай якіх паслужыла кампанія па выбарах Прэзідэнта. Шматлікія парушэнні выбарчага заканадаўства падчас агітацыйнай кампаніі і фальсіфікацыі пры падліку галасоў не дазваляюць лічыць, што гэтыя выбары адбыліся. Дзеянні сілавых структур пры падаўленні справядлівых пратэстаў мірных грамадзян па ўзроўні нялюдскасці і жорсткасці нагадваюць зверствы сталінскіх катаў у перыяд рэпрэсій 1930-х гадоў і фашысцкіх акупантаў у часы Другой сусветнай вайны.

Афіцыйнымі сродкамі масавай інфармацыі развязаная кампанія істэрыі, нагнятання чутак пра пагрозы звонку і захоп краіны, шальмавання тых, хто настойвае на выкананні ўладамі закона і справядлівасці, выступае за еднасць нацыі. Як і ў сталінскія часы, простых людзей спрабуюць увесці ў зман, прыпісваючы лідарам пратэсту злачынствы, якія яны не здзяйснялі. Удзельнікі мірных і законных пратэстаў падвяргаюцца ціску на працы і судовым пераследам. Для арганізацыі акцый у апраўданне сфальсіфікаваных вынікаў выбараў выкарыстоўваецца адміністрацыйны рэсурс і бюджэтныя сродкі.

Галоўная адказнасць за маштабны крызіс, які разрастаецца ў Беларусі, ляжыць персанальна на Аляксандру Лукашэнку, які для захавання свайго становішча пайшоў не толькі на перавышэнне ўлады, але і ўзняў зброю на свой народ.

У мэтах стабілізацыі становішча ў краіне, аднаўлення законнасці і выканання народнага валевыяўлення, мы патрабуем ад дзяржаўных органаў:

Неадкладна выкарыстаць існуючы законны шлях выхаду з палітычнага крызісу, правесці паўторныя выбары ў вызначаны Канстытуцыяй тэрмін, з новым складам выбарчых камісій усіх узроўняў, сфармаваных па дэмакратычных прынцыпах;

Неадкладна вызваліць усіх палітзняволеных і ўсіх затрыманых падчас акцый пратэсту, спыніць рэпрэсіі ў дачыненні да мірных грамадзян, не перашкаджаць ім свабодна збірацца і выказваць сваё меркаванне;

Спыніць пераслед чальцоў Каардынацыйнай рады і стварыць умовы для агульнанацыянальнага дыялогу пад эгідай АБСЕ;

Пачаць расследаванне фактаў парушэння выбарчага заканадаўства падчас прэзідэнцкай выбарчай кампаніі і фактаў масавага гвалту і забойстваў грамадзян падчас пратэстаў супраць фальсіфікацыі прэзідэнцкіх выбараў;

Прадставіць у дзяржаўных сродках масавай інфармацыі свабодную трыбуну для прадстаўнікоў усіх пунктаў гледжання, арганізаваць дыскусію аб становішчы ў краіне з удзелам прадстаўнікоў усіх палітычных сілаў;

Правесці круглы стол аб сітуацыі ў Беларусі і шляхах выхаду з крызісу з удзелам прадстаўнікоў уладных структур і грамадскасці, у тым ліку Каардынацыйнай рады;

Мы падпісваем гэтую заяву індывідуальна, бо лічым, што ў такой сітуацыі кожны павінен выказаць сваю грамадзянскую пазіцыю. У найбліжэйшы час мы маем намер звярнуцца да сяброў нашых арганізацый з прапановай яе падтрымаць.

Заклікаем кіраўнікоў усіх іншых грамадскіх арганізацый і творчых саюзаў далучыцца да гэтай заявы.

**Алена Анісім**,
*старшыня Грамадскай арганізацыі "Таварыства беларускай мовы"*
**Ігар Агурцоў**,
*каардынатар прававой ініцыятывы "Вяршынства закону"*
**Васіль Астроўскі**,
*старшыня Мінскай абласной грамадскай арганізацыі "Таварыства абароны спажыўцоў"*
**Таццяна Бярнацкая**,
*кіраўнік Цэнтру дасуга дарослых і дзяцей "Эка Жыццё"*
**Алег Волчак**,
*старшыня ПЦ "Прававая дапамога насельніцтву"*
**Яніна Ганчарова**,
*старшыня Рэспубліканскай грамадскай арганізацыі "Палата моды"*
**Таццяна Зялко**,
*старшыня Беларускага рэспубліканскага Саюзу пенсіянераў "Нашае пакаленне"*
**Сяргей Драздоўскі**,
*старшыня Грамадскай арганізацыі "Офіс па правах людзей з інваліднасцю"*
**Уладзімір Колас**,
*старшыня Грамадзянскай ініцыятывы "Рада беларускай інтэлігенцыі"*
**Алесь Лозка**,
*старшыня Грамадскай арганізацыі Таварыства беларускай школы*
**Алена Макоўская**,
*кіраўніца Міжнароднай грамадскай арганізацыі Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"*
**Сяргей Мацкевіч**,
*старшыня Рабочай групы Асамблеі неўрадавых дэмакратычных арганізацый Беларусі*
**Сяргей Міхаленка**,
*старшыня Беларускага грамадскага аб'яднання фатографаў*
**Гары Паганяйла**,
*старшыня юрыдычнай камісіі Беларускага хельсінскага камітэту*
**Барыс Пятровіч (Сачанка)**,
*Старшыня рады Грамадскай арганізацыі "Саюз беларускіх пісьменнікаў"*
**Юрась Піскун**,
*старшыня суполкі "Пагоня" Беларускага саюзу мастакоў*
**Ігар Раханскі**,
*сябра рады Грамадскага аб'яднання "Беларускі камітэт Міжнароднай рады па помніках і гістарычных мясцінах «ІКАМОС»*
**Таццяна Сініца**,
*заснавальніца Інфармацыйнай сацыяльна-дабрачыннай установы дапамогі дзецям з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця і членам іх сем'яў «ФрыМОВА»*
**Тадэуш Стружэцкі**,
*старшыня Грамадскай арганізацыі "Беларускі фонд культуры"*
**Дзмітры Сурскі**,
*старшыня Грамадскай арганізацыі "Беларускі Саюз дызайнераў"*
**Ніна Шыдлоўская**,
*старшыня Рады Міжнароднай грамадскай арганізацыі "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"*
**Генадзь Федыніч**,
*кіраўнік Рэспубліканскага прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці*
**Таццяна Яворская**,
*старшыня Асветніцка-сацыяльнага грамадскага аб'яднання "Звяно"*
**Святлана Алексіевіч**,
*старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра*
**Таццяна Нядбай**,
*намесніца старшыні Беларускага ПЭН-цэнтра*
**Уладзімір Арлоў**,
*сябра Рады Беларускага ПЭН-цэнтра*
**Марыя Мартысевіч**,
*сябра Рады Беларускага ПЭН-цэнтра*
**Сяргей Дубавец**,
*сябра Рады Беларускага ПЭН-цэнтра*
**Андрэй Хадановіч**,
*сябра Рады Беларускага ПЭН-цэнтра*

памяць

# ЖНІВЕНЬ-2020. МЫ – СВЕДКІ

**“Прымушаюць людзей маліцца і малоцяць дубінкамі”**

Карэспандэнт расійскага выдання Znak.com Мікіта Целіжэнка, затрыманы 10 жніўня каля 19:00 у цэнтры Мінска, на вуліцы Нямізе:

“Да мяне пад’язджае мінівэн, з яго выходзяць цалкам экіпаваныя байцы, яны бачаць, што я пішу нешта ў тэлефоне, а я пісаў sms, але яны палічылі, што я пішу ў Тэлеграме і маю доступ да інтэрнэту. А ўсіх людзей Беларусі, хто калупаецца ў тэлефоне, яны прымаюць за каардынатараў усіх гэтых пратэстаў, як я разумею.

Мяне даставілі ў РУУС – Маскоўскае. Там сілу ўжывалі да ўсіх без выключэння: любое пытанне, якое не задавальняла супрацоўнікаў, тут жа абарочвалася збіццём. Людзі крычалі, людзі ад болю хадзілі пад сябе.

І ўсё гэта праходзіла пры поўным спакоі ўсіх астатніх супрацоўнікаў міліцыі, якія, па сутнасці, павінны абараняць людзей. Яны ўпіваюцца гэтым. Яны прымушаюць людзей маліцца, калі пачынаюць іх біць. Кажуць: чытай “Ойча наш”! І малоцяць дручкамі, нагамі і ўсім астатнім. Білі па галаве, білі па нагах. Чалавека, якога вялі перада мной, з усяго размаху “дзеля жарту” дзеўбанулі аб дзвярны вушак.

Усіх звальваюць покатам у актавую залу. І першае, што ты бачыш, – гэта людзі, па якіх ходзяць як самі супрацоўнікі міліцыі, так і тыя самыя затрыманыя: яны таксама вымушаныя ісці па людзях. Бо наступіць няма куды.

Усе ляжаць пад нагамі, усе крычаць, просяць дапамогі. Дапамога не аказваецца. У найлепшым выпадку табе не прыляціць па мазгаўні.

Адразу, калі ты заходзіш, цябе кладуць тварам на падлогу. Не дай Бог ты павярнуў галаву – табе адразу прылятае з берца па твары. Ты павінен глядзець у падлогу. Мяне гэта абмінула. Але таварыш, які ляжаў побач, напэўна, пазбавіўся зубоў.

16 гадзін ляжыш у позе, дзе ў цябе галава за спінай, разагнуцца нельга, галаву падняць нельга, перасесці нельга. У прыбіральню з дазволу. Калі ўсё нармальна, то дазволяць, калі не – хадзі пад сябе, і многія так і робяць. Пры мне было каля 150 чалавек затрыманых, толькі ў адным Маскоўскім РУУС.

Усіх людзей, якія раніцай яшчэ застаюцца ў РУУС, спускаюць уніз на першы паверх, дзе знаходзяцца камеры, разлічаныя на два-тры чалавекі. У іх загружаюць 20-30 чалавек, а там няма ніякай вентыляцыі. Людзям забараняюць сядзець, людзям забараняюць паварочвацца. Усё роўна, які ўзрост, які пол. Людзі проста стаяць і марынуюцца.



Мікіта Целіжэнка.

Кандэнсат ад дыхання з’яўляецца на сценах, на століі. Цячэ па століі. Ты рэальна стаіш у вадзе, не ведаеш, чым дыхаць. Людзі трацяць прытомнасць ад таго, што дыхаць няма чым.

Там былі людзі з пашкоджаным пазваночнікам, з разбітымі рукамі і нагамі, страсеннем. Нічога нікому.

Максімум – могуць кагосьці вынесці на насілках цішком, пакуль ты не бачыш. Жывы чалавек ці мёртвы, ты нават не даведаешся. Калі, не дай Бог, ты падняў галаву – табе адразу па ёй і прылятае.

Калі ты пратырчаў недзе дзве гадзіны ў гэтай камеры, прыязджаюць супрацоўнікі СОБРа, грузяць чалавека ў аўтазак. Прычым грузяць такім чынам, што людзі ляжаць штабелямі, адзін на адным. І дыхаць тым, хто апынуўся ніжэй, проста робіцца няма чым. Таму атрымліваецца, што калі вы выязджаеце, людзі з перабітымі канцавінамі проста крычаць ад болю.

У момант, калі машына паехала, нам усім сказалі ўстаць на кукішкі, рукі за галаву, сагнуць шыю. Проста, атрымліваецца, калі ты едзеш, ты не можаш на нешта абаперціся. Як толькі ты апускаеш галаву ніжэй, падымаеш яе вышэй – табе тут жа пачынаюць прылятаць удары. Табе абсалютна забаронена на нешта абапірацца. І калі канваірам становіцца сумна, яны проста  гэта самае жудаснае відовішча, калі людзі сядзяць, не могуць падняць галаву,  ім кажуць: «Спявайце гімн Беларусі!»

Гэта называецца ІЧУ, але наагул, па сутнасці, гэта турма. Жодзіна, па-мойму, называецца. Цябе заводзяць, пагражаюць табе: «Вы зараз прыедзеце на хату, вас там “петушыць” будуць па чарзе».

Людзі сядзяць, чакаюць, але многія цешацца, што хаця б іх не б’юць у гэты момант. То бок людзі рэальна радуюцца турме, што там іх не малоцяць.

Далей, пакуль мы чакалі, прыйшоў палкоўнік Ілюшкевіч, сказаў прозвішча, ты падняў руку, што ты тут, і пайшлі ўзяць твае рэчы.

Вялізны дзякуй работнікам пасольства Расіі, якія эвакуююць расійцаў. Бо тут ніякай скідкі на тое, што ты грамадзянін Расіі, на тое, што ты журналіст, не робіцца. Калі ты папаўся, няважна, куды ты ішоў, ты адграбаеш”.

**“Мяне палохае ўласная нянавісць”**

Алена Шчарбінская, журналістка тэлеканала «Белсат»:

“Мяне палохае нянавісць да кожнага супрацоўніка, да сістэмы, якая нас усіх цяпер забівае і нявечыць. У мяне не засталося ніякіх падзелаў на «злы амапавец» і «лейтэнант з задрыпанага РУУС, які нічога дрэннага не зрабіў». Да кожнага, хто дагэтуль у гэтай сістэме.

Вялікая ўдзячнасць да лекараў, якія ўчора правялі вялізны аб’ём даследаванняў за лічаныя гадзіны, абверглі адзін дыягназ, паставілі іншы. І пры гэтым дзякавалі мне за працу, падтрымлівалі кожны раз па-рознаму: словам, кубачкам гарбаты, усмешкай. І былі на нашым баку, а не на тым. І яны таксама чакаюць зменаў.

Удзячнасць да людзей, якія на працягу трох сутак былі побач і рэальна мяне ратавалі. Дзяўчаты з камеры, вашы тэлефоны ў мяне, усіх знайду. Да той, якая гладзіла па галаве, калі я пачынала плакаць, і шаптала: «Усё будзе добра, давай памолімся». Яна спала са мной трое сутак то ў абдымку, то спіна да спіны. І размаўляла пра патрэбнае, і маўчала, калі было важна. І абяцала смачныя кактэйлі, калі выйдзем (а я нічога не забылася).

Удзячнасць да незнаёмай жанчыны, якая, пачуўшы ў сваім дамафоне мае словы «Дапамажыце, я журналістка, мяне пераследуюць», адчыніла дзверы. Пусціла ў кватэру, падзялілася вайфаем, прапанавала накарміць і пераживала, калі я сыходзіла.

Спачуванне да ўсіх, хто ў гэтыя дні збіты, знявечаны, ды й проста ўсё гэта бачыць. Спачуванне такога ўзроўню, што я плачу з перапынкамі на паразмаўляць з лекарамі і праглынуць ежу з таблеткай.

Адчуванне ўласнае сілы. Мне сто разоў хацелася прызнацца, што я ўдзельнічала ў мітынгу, крычала лозунгі і размахвала рукамі і «пайсці дадому» – так абяцалі дзядзі ў цывільным. Потым мне было страшна спрачацца з судом і даказваць, што я не ідыётка. «Алена, заткніся, падпішы ўсё, інакш паедзеш на 15 сутак», – казаў мне адзін з маіх галасоў (у мяне іх некалькі, але шызафрэніі не дыягнаставана). Я паслухала той, за які не сорамна.

Любоў. Да мужа, які ўсе гэтыя дні не толькі шукаў мяне, выносіў мазгі маім калегам, трымаў сувязь з усімі РУУС Мінска, але і быў з дваімі малодшымі дзецьмі, сабакам і нават маёй мамай. Але самае важнае: ён адзіны з маёй сям’і, які не задаў пытання, якое выводзіць з маральнае раўнавагі: «Ну нафіга ты туды паперлася, у цябе ж дзеці?!»

Туга па дзецях. Яна са мной заўсёды, камяком у горле. І разам з ёй пастаяннае адчуванне віны: ці зразумеюць яны, чаму мама такая? Можа, трэба проста быць з імі, без усялякага гэтага ўсяго?

Няёмкасць. Цяпер многія пішуць словы падтрымкі, збіраюцца прыехаць у адведкі, пытаюцца, як дапамагчы, і ставяцца да мяне, быццам я праявіла нейкі гераізм. Мне няёмка ад гэтага, бо я бачу іншых герояў.

Надзея. Можна ж без каментароў, так?



Алена Шчарбінская.

***

З дыягназам «шырокі ўдар брушной паражніны і мачавога пузыра, кровападцёкі (і яшчэ нешта)» я знаходжуся ў лякарні хуткай дапамогі”.

**“Мала вас у Расеі б’юць, вы яшчэ і ў Беларусь прыехалі”**

Аляксей Абрамаў, 39 гадоў, пецярбургскі праграміст (Расія), затрыманы ў Горадні:

“Я гуляў. У панядзелак спакойна гуляў. А ў аўторак, 11 жніўня, ужо неспакойна.

Была спёка, і я купіў вышыванку, у ёй лягчэй. З сабой у мяне былі бінты і трохі грошай: 200 даляраў і яшчэ недзе 200, якія абмяняў на беларускія. Інтэрнэту не было, плаціць мог толькі гатоўкай.

А потым мяне затрымалі супрацоўнікі ў масках… Так, давайце назавём гэта «затрымалі». Проста я праходзіў міма супрацоўнікаў у масках, і яны мяне за-тры-ма-лі. Вось.

Ведаеце, момант затрымання доўжыўся паўхвіліны. Потым пачалося збіванне. Пачнем з таго, што мне шчыльна зацягнулі сцяжку за спінай. У гэтым ужо вялікі дыскамфорт. Мяне білі па розных частках цела. Скажам так, балюча, але акуратна. Да крыві так і не дайшло, напрыклад. Прычым яны былі поўныя рашучасці біць мяне да таго часу, пакуль не пакажу графічны ключ ад тэлефона. Пасля гэтага збіванне спынілася. Мне на патыліцу і на вышыванку нанеслі чорную фарбу ў выглядзе крыжа. Думаю, гэта нейкі

знак АМАПа, бо далей усе супрацоўнікі ў масках мяне білі. Я пра такое раней не чуў, каб пазначалі з балончыка людзей.

Мяне вазілі па некалькіх месцах. Першае месца я нават не магу назваць. Гэта была проста канспірацыя. Я толькі мог ляжаць на падлозе і паварочваць галаву альбо ў падлогу, альбо ўлева, дзе была шафа. Больш нічога. Але пры гэтым мне задавалі пытанні. Пыталіся пра грошы: сказаў, што на здымнай кватэры ляжаць 4,5 тысячы даляраў – усе грошы я вёз маім дзецям. Затым паехалі ў РУУС. Там, улічваючы тое, што я з Расіі і ў мяне грошы, ужо былі поўныя рашучасці здабыць з мяне прызнальныя паказанні, маўляў, грошы раздаваў, арганізоўваў несанкцыяваныя масавыя мерапрыемствы.

У РУУС быў нейкі начальнік у цывільным, які даваў распараджэнні. Ён сказаў: «Што, расіец? Чаго вы сюды прыехалі?» І выцяў па твары некалькі разоў. Пасля гэтага адвялі ў пакой, назавем яго пакоем для допыту, дзе я ляжаў са звязанымі рукамі, і мяне білі па чарзе чатыры чалавекі. Білі ў асноўным гумовай дубінкай і нагамі па азадку, задняй паверхні сцягна і галаве. Я б сказаў, удары не нявечылі, але яны вельмі балючыя, асабліва калі паўтараюцца.

Усяляк пагражалі… Абсалютна кніжныя пагрозы: што будуць гвалтаваць дубінкай, пілаваць зубы напільнікам, напырскаюць у пакет з пярцовага балончыка і надзенуць на галаву, прастрэляць мне калені і скажуць, што спрабаваў уцячы, адаб'юць усе мазгі, і я забуду, што я праграміст. Не давалі піць і ў туалет. Казалі, што потым на допыце, цытую, «і абсцышся, і абасрышся». Канец цытаты.

Калі стала зразумела, што паказанні пра тое, што я арганізоўваў штосьці і раздаваў грошы, здабыць не атрымалася, вырашылі сабраць фактуру на здымнай кватэры. Перад паездкай туды далі падпісаць пратакол. Сказаў, што хачу яго прачытаць – пачалі біць. Затым усё ж такі далі прачытаць. У пратаколе было практычна ўсё, што я казаў сілавікам, плюс, што мяне затрымалі не ў 20:40, як гэта было насамрэч, а ў 23:45, нібыта я ўдзельнічаў у мерапрыемствах. Паколькі не было напісана, што раздаваў грошы, я падпісаў, што браў удзел у акцыях пратэсту. Падпісаў, каб пазбегнуць далейшага збівання.

Тады мяне збітага павялі ў агульны пакой паказваць іншым беларусам; там той галоўны, які мяне спачатку біў па твары, паказваў мяне астатнім і казаў: «Мала вас у Расіі б'юць, вы яшчэ і ў Беларусь прыехалі». У Расеі мяне, дарэчы, ніколі не білі.

У аўтамабілі я стаяў на карачках, быў прыкаваны кайданкамі да аднаго з тых, скажам, хто мяне раней да-



Пасля выхаду з турмы Аляксей Абрамаў выступіў на мітынгу ў Горадні. Здымак Кацярыны Гардзеевай, tut.by

пытваў. Ну а супрацоўнік у масцы біў мяне дубінкай. Сам ператрус быў незаконны. Мала таго, што не прадстаўляліся, не было ні ордару, ні панятых, ні санкцый. Проста загрузілі ў машыну і паехалі глядзець, што ў мяне там ёсць. Абсалютна бандыцкім чынам, я б сказаў. Забралі грошы, ноўтбук, тэлефоны, усе флэшкі. І прапаў ключ ад дома ў Пецярбургу.

Прывезлі назад, склалі новы пратакол. Напісалі, што 4500 даляраў былі ў мяне пры сабе, калі затрымлівалі. Разумееце? Прымусілі падпісаць пратакол. Казалі, што лёгка абыдуся, будзе штраф. І павезлі ў СІЗА ў Горадню. Даволі рэжымнае прадпрыемства.

Што ж там? Нас сустракалі так званыя «маскі-шоу»: па перыметры сталі супрацоўнікі ў масках. Крычалі, расстаўлялі ногі шырэй, штурхалі па нагах, білі ззаду па тулаве, забаранялі трымацца за краты, каб не ўпасці. І ўвесь час пыталіся, каму і колькі даваў і чаго прыехаў, расіец. Ну не расіец, а там нейкімі словамі гэта ўсё было, у тым ліку нецэнзурнымі.

Паколькі я паказанняў не мяняў, гэта спынілася. І я трапіў у камеру. Я помню гэтую свабоду: піць і хадзіць у туалет. Забаўляўся гэтым усю ноч.

У турме былі добрыя ўмовы, было харчаванне, нармальнае стаўленне персаналу… Адзінае, што не давалі – не ведаю, належыць ці не – Кодэксы аб адміністрацыйных правапарушэннях, Грамадзянскі Працэсуальны кодэкс. Пра званок адвакату не магло быць і гаворкі.

Былі і допыты. Ну як допыты… Гэта нават не допыт формай. Проста заводзілі ў кабінет, і мужык, якога я першы раз бачыў, задаваў пытанні ад самага пачатку і запісваў нешта ў сшытачак. Былі і запалохванні, што сяду на 15 гадоў, бо я арганізатар; казалі, што ўсе паказанні даюць. «Сядзеш надоўга, адсюль не выйдзеш, гады не ўбачыш сваіх дзяцей». Гэта казалі і ў працэсе допыту, і ў працэсе размоў без пратаколу ўжо ў турме. Прадстаўляліся вельмі невыразна, казалі, што расследуюць крымінальную справу аб арганізацыі масавых беспарадкаў.

Потым быў смешны суд.

Суддзя, практычна не гледзячы на мяне, зачытваў з паперкі пра ўдзел у несанкцыянаваных мерапрыемствах. І нягледзячы на тое, што я даваў тлумачэнні, якія не ўносіліся ў пратакол, – пра катаванні, пра тое, што прасіў паказаць пратакол затрымання, які не мог быць праўдзівым, – справа працягвалася сваім ходам. Суддзя чытаў нейкі тэкст. І прысудзіў дзесяць сутак адміністрацыйнага арышту. Камусьці даваў пяць, некаму сем, дзесяць сутак, камусьці штраф. Аднаго хлопца, якога адпусцілі, як і іншых сукамернікаў, я прасіў звязацца з людзьмі, якіх ведаю ў Горадні. Яны выйшлі і звязаліся.

У нейкі момант ужо была ініцыятыўная група для майго вызвалення. Яны спрабавалі ў тым ліку звязацца з пасольствам Расійскай Федэрацыі ў Мінску. Там казалі, па-мойму, што было шмат зваротаў, але нейкай канкрэтнай рэакцыі не было.

Адпусцілі 17 жніўня. Не растлумачылі, чаму. Ніякай паперы няма, ніякай квітанцыі пра аплату няма. Сказалі, што я трошкі адбыў, але можна працягнуць у любы момант.

19 жніўня была камісія. Яна пастанавіла, што за адміністрацыйнае правапарушэнне – удзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве – я павінен пакінуць Беларусь у кароткі тэрмін і не змагу прыехаць сюды цягам пяці гадоў.

Дарэчы, на пастанову пра тое самае адміністрацыйнае правапарушэнне, за якое мяне высылаюць, мы падавалі скаргу. Яна нечакана згубілася".

## "Не торгайся, бо прастрэлім яйцы!"

*Юры Шамшур, журналіст агенцтва ТАСС:*

"Ноч. 11 жніўня. Унутраныя войскі прасоўваюцца па вуліцы Прытыцкага ў раёне метро «Кунцаўшчына», не атрымліваючы ніякага супраціву з боку нешматлікіх удзельнікаў пратэсту, а агулам кажучы, звычайных разявак. «Абаронцы канстытуцыйнага ладу» грымяць дубінкамі па шчытах і бадзёра пераступаюць выцягнутыя на праезную частку бетонныя тумбы для кветнікаў і смеццевых кантэйнераў. Скопішча людзей перад імі няма, некалькі чалавек стаяць каля пад'езда, прыкладна за 60 метраў ад праезнай часткі. З імі – акрэдытаваны МЗС Беларусі, абазначаны надпісам PRESS і акрэдытацыйнай карткай на грудзях карэспандэнт, які асвятляе падзеі ў краіне. Ваякі рынуліся ў двары, змятаючы ўсё на сваім шляху.

– Не чапай прэсу! – крычыць адзін з пяці сілавікоў, якія набліжаюцца да журналіста.

– Мне по…й! Сука, што ты тут робіш? – крычаць яго саслужыўцы і абрушваюць шквал удараў дубінкамі па галаве і іншых частках цела. У нейкі момант табе сваімі невялікімі рукамі, якія павялічыліся ў аб'ёме ў некалькі разоў, удаецца закрыць галаву.

Праз некалькі хвілін вяртаецца прытомнасць, калі цябе пад рукі вядуць двое. Просіш звярнуць увагу на акрэдытацыю МЗС, патэлефанаваць прэс-сакратару МУС.

– Не торгайся, бо прастрэлім яйцы! – чуваць рогат. Бравыя «рабяты» закідаюць у аўтазак, там прымае «таварыш прапаршчык», які перакідвае з адной рукі ў другую стрэльбу.

– Сардэчна запрашаем у наш авіялайнер, – смяецца адзін з ваякаў. – Лысы, на калені! Тварам у падлогу! – патрабуе, зняўшы акуляры і выключыўшы тэлефон журналіста.

Побач, утыкнуўшыся ў падлогу, на каленях стаялі двое мужчын. У аднаго з галавы сачылася кроў. Другі – спрабаваў растлумачыць, што трапіў «пад раздачу», калі дабіраўся з тралейбуснага парку пасля заканчэння змены.

Неўзабаве канвеер хапуна запрацаваў хутчэй. У аўтазак сталі закідаць і збіваць мужчын. Дзвюх дзяўчат не чапалі, але на калені паставілі і іх.

– Сволачы, якіх перамен вы патрабуеце? Чаму, сукі, вам не падабаецца наш прэзідэнт? Мы не дамо вам, підарасы, разарваць нашу краіну. Чаму мы павінны ночы не спаць, збіраючы вас па вуліцах? – роў на ўсё горла абаронца парадку. Ягоны саслужывец у гэты час «абшчаўся» з дзяўчатамі, гуляючы з стрэльбай, дэманстраваў яе памер і намякаў пры гэтым на свае мужчынскія здольнасці.

– Лысы, што ў цябе боўтаецца на шыі? – спытаў ён у карэспандэнта. – Акрэдытацыя МЗС – адказаў журналіст. – А што такое МЗС? – спытаўся таварыш прапаршчык.

Хвілін праз 40 пачалася перагрузка ў амонаўскі аўтазак. Затрыманых па чарзе падводзілі да дзвярэй машыны.

– Дзякуй, што скарысталіся нашымі авіялініямі. Надвор'е за бортам х…е, – праводзіў затрыманых бравы салдат ударамі дубінкі.

Працяг на старонцы 6.

**памяць**

# ЖНІВЕНЬ-2020. МЫ – СВЕДКІ

Працяг са старонкі 5.

Журналіста гэтая доля прамінула. З амонаўскага аўтазаку чуваць былі ўдары і крыкі.

– Стой побач, пагрузім гэтых свалачэй, потым пойдзеш ты, – сказаў амонавец. У гэты момант падышлі два амонаўцы з іншай брыгады:

– Прэса, якога… ты тут робіш? – спыталіся яны. Стала зразумела, што трэба няспешна сыходзіць. Праз трычатыры хвіліны журналіста прытуліў адзін з цёмных двароў Каменнай Горкі".

### "Мне думаецца, што гэтыя людзі з нейкімі псіхалагічнымі адхіленнямі"

Уладзімір, 31 год, грамадзянін Расіі:

"Затрымалі ў Магілёве на вуліцы Каралёва (мікрараён Юбілейны) уначы з 11 на 12 жніўня, калі вяртаўся ад сяброў з дня нараджэння. Я ведаў, што ў цэнтры адбываюцца пратэсты, таму на бяседу ехаў "агародамі". Зразумела, быў нападпітку, але ў меру, бо на заўтра трэба было на працу. Мае паводзіны не парушалі грамадскага парадку і не абражалі мінакоў. Пад'ехаў аўтазак і папрасілі ў яго прайсці. Тады падумаў, што міліцыя шукае ўдзельнікаў пратэстаў, і мне нічога не пагражае, бо віны за мною няма.

Прывезлі ў Ленінскі аддзел міліцыі і на выхадзе з аўтазаку пачалі малаціць дручкамі. Білі са спіны да калена, двойчы «прыляцела» ў патыліцу. Неяк быў спатыкнуўся, і тады падбеглі падганяць тыя, хто мяне ўжо ўдарыў. Гналі на трэці паверх у актавую залу. На ўваходзе ў яе разгубіўся, і мяне так ударылі нагой, што я ў гэтую залу ўляцеў.

Скруцілі «ластаўкай». Начапілі кайданкі на рукі і ногі. Ім не спадабаўся бел-чырвона-белы з арнаментам пасак на руце. Яго падарыла мне мая дзяўчына, якая не саромецца выказваць свае погляды і ведае, што і я не цураюся сваёй беларускасці. Пабачыўшы пасак, знялі з валасоў гумку і пачалі ёю мяне душыць. Гэта была хутчэй спроба запалохаць, зламаць маральна. Як хацелі б задушыць, то тыя людзі ўмеюць гэта рабіць. Білі за пасак дручком па спіне, сядалішчы. Засталіся сінякі на гэтых месцах. Збіваючы, выграблі ўсё з кішэняў. Калі пасак сарвалі з рукі, не памятаю. Знайшоў яго ў сваіх рэчах.

Мяне пераклініла было, і я сказаў міліцыянтам: «Што вы робіце, чэрці, гэта беззаконне». Тады адразу ўдарылі нагой па лбе. У нейкі момант удары ўжо не так балюча адчуваліся. Цяжка было бачыць, як б'юць іншых. Нас наўмысна паклалі на падлогу, каб збіццё іншых было на вачах. Мне цяжка было зразумець матывы людзей, якія білі. Магчыма, думалі, што я грамадзянін Расіі, мяне могуць дэпартаваць, таму не буду бараніць сваіх правоў.



Рука журналіста Юрыя Шамшура, пашкоджаная сілавікамі



Уладзімер, 31 год, грамадзянін Расеі, зьбіты міліцыяй у Магілёве

Пасля збіцця нас спусцілі на першы паверх. Там пакой для агляду і «малпоўні». Я адразу сказаў, што з дня нараджэння і нападпітку. Мне далі дыхнуць у трубачку. Зафіксавалі 1 праміле алкаголю. Гадзіну мы стаялі ў калідоры на каленях. Кайданкі з мяне не знялі. Ад іх засталіся сляды на руках. На шыі была і гумка ад валасоў. Калі стаў задыхацца, папрасіў ахоўніка, каб яе зняў, «калі ён чалавек». Міліцыянт паслухаўся.

Мы правялі ў «малпоўні» ноч. Потым нас ізноў завялі ў залу, дзе білі і паказвалі нашыя рэчы. Адна банкаўская картка знікла, а ў дзвюх былі выдзертыя чыпы. У гаманцы не было візітак, чэкаў з запісамі, а сам ён быў парваны. Грошай было няшмат, але ад іх засталося два рублі дробяззю.

Судзілі ў ізалятары. Суддзя не назвалася. Яна была ў масцы. Разглядалі справу цягам хвіліны. Яе распачалі з паказання аднаго апаратыўніка. Ягонае імя таксама не назвалі. Нас асабліва ніхто не слухаў. Віну ва ўдзеле ў пратэсце я не прызнаў. Далі 15 сутак. Адседзеў трое і быў «амніставаны». Тым, хто прызнаваў, давалі крыху меней.

Тое, што адбылося ў міліцыі, успрымаю як спробу маральна прынізіць затрыманых. Міліцыянтам проста далі адмашку так рабіць. Іх спецыяльна гэтаму навучылі. Мне думаецца, што гэтыя людзі з нейкімі псіхалагічнымі адхіленнямі, якія для нармальнага чалавека анамальныя, але для дзяржавы ў пэўных мэтах прыдатныя".

### "Зараз мы табе зробім паўторнае абразанне"

Аляксандр Фурман, грамадзянін Ізраілю:

"Мы ўжо павінны былі спусціцца ўніз, перайсці дарогу – і да сябе дадому. Бо мы ўжо ведалі, што прыблізна з сямі гадзін вечара пачынаюцца пратэсты. Мы не хацелі ў іх удзельнічаць.

Гэта было 10 жніўня. Пасля таго, як я прамінуў гэты жоўты аўтобус, адтуль выскачылі шэсць салдат АМАПу ў чорнай форме і масках, з крыкамі, з мацюкамі, з пагрозамі пачалі цягнуць мяне да гэтага аўтобуса. Я адразу ж падняў рукі і сказаў: «Не-не-не, я не супраціўляюся. Я замежны грамадзянін. Я ізраільцянін». На гэта я пачуў усялякія кпіны і «жарцікі». Адзін быў такі: «Зараз мы табе зробім паўторнае абразанне».

Я яшчэ быў такі самаўпэўнены і сказаў: «А што, вы антысеміт?» І тут мне ясна далі зразумець, што я нават не пешка ў гэтай гульні, што я ўвогуле кузурка і мне трэба заткнуцца.

Я ўсё чакаў, што мяне ўрэшце аль-

бо адпусцяць, ці яны зразумеюць, што грамадзянін Ізраілю, навошта ім гэта трэба. І ўвогуле я быў упэўнены, калі нават ехаў, што, калі што, пашпарт – гэта будзе мая страхоўка ад нейкіх дзеянняў. Бо я ўжо быў начуты, што лепш не сустракацца з беларускім АМАПам, асабліва ў гэтыя дні.

Далей падвезлі аўтазак белага колеру і нас сталі выгружаць. Пагрузка, яна, вядома, была ве-е-ельмі страшнай, таму што білі справа-злева дубінкамі. У прынцыпе, гэта, можа быць, не вельмі прыгожа з майго боку, але я зразумеў, што калі ты будзеш выходзіць апошнім, то рука амапаўца ўжо трошкі стоміцца і ўдар будзе слабейшы. Таму… плюс яшчэ ад двух удараў я змог ухіліцца, але парачка ўдараў мяне насцігла па дарозе ў аўтазак. Рукі былі за спінаю, галава вельмі нізка. Таму я нават не бачыў, што робіцца. Сыпаліся ўдары.

Мяне закідваюць у аўтазак. У аўтазаку ёсць такое апошняе аддзяленне, дзе чатыром, па-мойму, чалавекам максімум сесці. Нас там было 10.

Выгрузка такая самая, як і пагрузка. Брутальна дубінкамі малоцяць. Ізноў жа я выходжу апошнім. Ізноў жа атрымліваю ўдары.

У аднаго хлопца была зламаная рука ў кісці, у запясці. І ў яго яна раздзьмулася да такіх памераў, што відаць, што гэта пералом. І ён проста не мог руку ўгору падняць. Дык амапавец падышоў, запатрабаваў, каб ён руку падняў. А той кажа: у мяне зламаная рука, я яе ўвогуле не магу падняць. Дык амонавец груба падняў яе ўгору і стукнуў аб мур. Я так разумею, што яму пасля выклікалі хуткую дапамогу.

І яшчэ быў хлопец, у якога была проста нейкая рваная рана, адтуль проста хвастала кроў. Такое я бачыў толькі ў сектары Газа, такія карціны. Ніяк не думаў, што пабачу такое ў мірным, любімым, родным Мінску.

Нас было 62 чалавекі. Сярод нас была жанчына, ёй 51 год. Яна проста заступілася за свайго мужа, які проста меў смеласць пажартаваць перад амапаўцамі і сказаць: «Чаму туды нельга, што там, каранавірус?» За гэта яго адразу ж затрымалі. Яна заступілася за яго, і таксама была затрыманая. Прычым яна сказала, што і галасавала за Лукашэнку. Яна сказала: «Учора ў 11.30 я прагаласавала за нашага прэзідэнта, а сёння я за яго стаю тут». Я ўяўляю, як ёй было ўдвая крыўдна.

Той, хто рухаўся, атрымліваў заўвагі і дубінкі. Але мы стараліся ўсё ж рухацца, калі яны не глядзяць на нас. Усё ж нас ахоўвала два-тры чалавекі, а астатнія сядзелі там, унутры.

Так мы стаялі да чатырох, напэўна, раніцы. Прычым я быў апрануты, як цяпер: кароткая майка і вось гэтыя шорты. А для мяне, ізраільцяніна, 10 градусаў ноччу – гэта ўвогуле неймаверна.



Аляксандар Фурман, пабоі

Сярод нас быў хлопец-інвалід, як аказалася, інвалід другой групы. У яго развіццё шасцігадовага дзіцяці. Ён пасля быў са мной у камеры. Ён нават не ведае, колькі яму гадоў. Як аказалася потым, яму 21 год. Ён проста не разумеў, дзе ён знаходзіцца. Яму казалі: падымі рукі. Ён падымаў, пасля апускаў: «Ай, усё, карацей, я стаміўся, ай, не хачу». І яны звярэлі, яны білі яго за гэта, зноў яго ставілі. У нейкі момант, калі ён сядзеў-варочаўся (а мы ўсе сядзелі, як мышкі, бо надакучылі ўсе гэтыя здзекі), працягваў з цікавасцю разглядаць, што робіцца вакол. Тады яму сказалі: давай, станавіся зноў, ён ізноў жа адмовіўся, абсалютна як дзіця. Маё сямігадовае дзіця абсалютна гэтаксама сябе паводзіць, калі ты хочаш яго пакараць. І яны сказалі: тады будзе калектыўнае пакаранне. І ўсіх 62 чалавекі зноў паставілі да плоту.

Але, я так зразумеў, да ўсіх пачало даходзіць, што з хлопцам нешта не так.

Раніцай нам дазволілі сесці і абаперціся, там былі турнікеты. Мы пачалі перашэптвацца. Прыехалі аўтазакі. Спачатку загрузілі нейкіх сурганаўскіх. Прычым іх грузілі вельмі брутальна. Я не бачыў, але я чуў гэтыя крыкі, гэтыя ўдары. І ім абяцалі, што гэта апошні раз яны кудысьці едуць.

Потым пачалі грузіць іншыя аўтазакі, гэта нас 60 чалавек. Спачатку грузілі аўтазак, дзе амапавец гучна камандаваў, што да яго толькі патлатых, толькі татуяваных, да яго толькі з сімволікай Беларусі. Таму што ён ім зараз учыніць апошні заезд і што яны не даедуць да Жодзіна. Так я даведаўся, што мы едзем у Жодзіна.

Пасля пачалі грузіць нас. Мы гучна казалі імя, прозвішча і год нараджэння. Я зноў заявіў, што я грамадзянін Ізраілю. Там было, вось як у школах расказваюць пра цягнікі ў Асвенцім, ідэнтычная сітуацыя, я проста быў уражаны. Нас кідалі аднаго на аднаго, прымушалі сядзець у такой паставе, што ў цябе каленкі вельмі моцна баляць. Усё гэта з пагрозамі, з матамі-пераматамі, з абвінавачваннем, што мы нейкія здраднікі краіны, што нам 150 даляраў плацяць, што мы нейкія агенты, што ваша Ціханоўская з’ехала ў Літву, што вы цяпер разумееце, якія вы дурні.

Ты нічога не можаш сказаць. Ты проста ў жорсткім шоку. Я ляжаў на хлопцу, які проста страціў прытомнасць. Яго пасля аплявухамі прывялі ў прытомнасць. З левага боку хлопец проста нарабіў у штаны, і пах у аўтазаку стаяў адпаведны. Усю дарогу нас везлі, і мы павінны былі гуляць у караоке. Мы павінны былі спяваць песню «Перамен», песню Стаса Міхайлава, яшчэ нешта… У гэты час яны нас хаця б не білі. Калі ж нехта прасіў развязаць рукі, бо яны ссінелі, тыя білі дубінкай і, каб дабрацца да канца аўтазака, яны станавіліся мне на спіну, прычым так смачна, па-садысцку ён наступаў і біў гэтых хлопцаў. Мая спіна была для яго як пастамент.

Усю дарогу нас запалохвалі, што зараз нас пасадзяць да уркаганаў, зараз нас усіх згвалтуюць гомасэксуальным кантактам, прычым гэта ўсё з матамі-пераматамі, зараз нам будзе Жодзіна, а гэта ўсё, Жодзіна – гэта смерць. І мы кожны атрымаем пяць гадоў турмы, бо ўчора прынялі новы закон.

Далей цябе выкідваюць з аўтазака. І тут раптам я першы раз адчуваю, што ніхто не хоча цябе біць. Так, ты знаходзішся на тэрыторыі СІЗА, так, да цябе звяртаюцца павышаным тонам, ты рухаешся па камандзе ўнутры там гэтых лабірынтаў, падвалаў, уверх-уніз…

Нас загналі ў такі двор, дзе зверху толькі сетка. Вызірнуў мужчына ў вайсковай форме і ў масцы і проста чалавечым голасам спытаў, якія ў нас просьбы. Мы папрасілі вядро, каб спаражніцца. Нам прынеслі вядро. І пасля ён сказаў: «Мужыкі, патрывайце, зараз мы вас па камерах расфасуем».

Мы заходзім у камеру. Там чацвёра сядзяць на лаўках, двое ляжаць на двух’ярусных ложках. Месцаў усяго шэсць, нас заходзіць 10. Яны на нас глядзяць. Яны на нас глядзяць разгублена, бо мы ўсе пабітыя. Яны не разумеюць. Мы на іх глядзім: мы не разумеем, ці гэта крымінальнікі. Я адразу спытаў, ці яны палітычныя. Яны сказалі: вядома, так. Аказваецца, гэта былі людзі, якіх узялі 8-9 жніўня. Там былі і назіральнікі з выбарчых участкаў і яшчэ нейкія хлопцы, якія проста выйшлі на праспект.

Мяне затрымалі 10-га, і толькі 12-га раніцай я першы раз атрымаў ежу, турэмную баланду. Адначасова нас выцягвалі на суды, прычым, калі ты пойдзеш налева, ты атрымаеш 10 сутак, калі направа – 5 сутак. Толькі адзін з нас атрымаў штраф 20 базавых велічынь. Астатнія атрымалі тэрміны, апроч мяне і паляка, які там быў.

У нейкі момант я ў хлопца-кантралёра, які падыходзіў да акенца, спытаўся: дык што са мной, у мяне яшчэ 2 гадзіны – і будзе 72 гадзіны затрымання. Вы павінны мяне паводле закону адпускаць. Хоць які тут закон… Ён кажа: «Слухай, з табой такая гісторыя, твае дакументы згубілі». І тут я зразумеў, што няма дакументаў – няма чалавека. Проста выкінуць з турмы, і ўсё.

Тое самае адбылося з палякам. Нас проста выкінулі з турмы. Прычым, калі мы выходзілі, мы павінны былі прайсці шэсць пакояў і знайсці свае рэчы. Пакоі выглядалі, як музей капітал-шоу «Поле цудаў». Гара тэлефонаў, гара рамянёў, гара ўсяго. Я патраціў дзве гадзіны, але я знайшоў усё. Нават кніжкі коміксаў для майго сына. Так у 10 вечара мяне выпусцілі. Праз 78 гадзін”.

### “У Кастрычніцкім РУУС было, як у кіно пра нацыстаў”

*Міхаіл Дарожкін, грамадзянін Расіі:*

“Прыехаў у Менск 8 жніўня. Я даўно жыву ў Санкт-Пецярбургу, працую ў ІТ-сферы. Родам з Беларусі, бацькі жывуць у Оршы, брат Павал – у Мінску.

Паколькі авія- і чыгуначныя зносіны паміж Расіяй і Беларуссю часова прыпынілі, давялося ехаць аўтобусам. Спыніўся ў сяброў. Два дні гуляў па горадзе як турыст, у фэйсбуку паспеў выставіць фота і відэа – стаў сведкам затрымання скейтбардыста 8 жніўня каля метро «Кастрычніцкая».

Увечары 9 жніўня выправіўся на чыгуначны вакзал, каб даехаць да Оршы.

На пустой вуліцы Ленінградскай прыкладна ў 21:30 стаяла ачапленне міліцыі. Я яго сфатаграфаваў. Да мяне падышлі міліцыянты і сказалі, што дарма я гэта зрабіў. Гэта былі курсанты, яны падвялі мяне да мікраааўтобуса цёмна-серабрыстага колеру без нумароў. У ім былі чатыры байцы АМАПу і пару чалавек у цывільным.

Я паказаў дакументы, што я грамадзянін Расіі, што маю квіток да Оршы, паказаў пасведчанне аб нараджэнні (нарадзіўся ў Оршы), фота пашпарта бацькі, што ён жыве ў Оршы.

Працяг на старонцы 8.

**памяць**

# ЖНІВЕНЬ-2020. МЫ – СВЕДКІ

Працяг са старонкі 7.

Мне сказалі: «Табе вельмі пашанцавала – выдалі з тэлефона фота і відэа і ідзі на цягнік».

Я пайшоў у бок вакзала. Але літаральна праз 30 секунд сілавікі схамянуліся і забралі мяне ў той жа бусік, заламалі рукі за спіну, надзелі кайданкі і павезлі ў Кастрычніцкае РУУС. Там склалі два пратаколы: адзін – што я чапляўся да мінакоў, і другі – што аказваў супраціў міліцыі.

Супрацоўнікі міліцыі сказалі мне: «Мы ўсё разумеем, пішы, што ты не згодны, і далей усё нармальна, будзем разбірацца. І на судзе дадуць штраф і ўсё».

У двары Кастрычніцкага РУУС было, як у кіно пра нацыстаў: нам вельмі моцна сцягнулі рукі, нават міліцыянты потым сказалі, каб так не рабілі – бо тры дні не праходзілі сляды. Потым прывезлі ў двор ізалятара часовага ўтрымання. Там сталі такія ж хлопцы ў камуфляжы ўнутраных войскаў, у руках – дручкі. Усіх білі.

11 жніўня мяне з сямю сукамернікамі перавялі ў камеру, дзе былі ўжо 25 чалавек. То бок нас у камеры памерам 2,2 на 5,3 метра стала 33! А там жа яшчэ тумбачкі, параша, умывальнік. Было вельмі горача, на вокнах вада – лазня! У камеры насупраць нас чалавек запатрабаваў туалетнай паперы і мыла – яго 12 разоў ударылі дубінкай па спіне.

Тры дні арыштантаў наогул не кармілі. Пасцельнай бялізны спачатку не было, яе выдалі толькі праз 5 дзён, калі людзей пачалі масава выпускаць.

Асабіста мяне амаль не білі, проста пашанцавала. Але ўва ўсіх чатырох камерах, праз якія я прайшоў за два тыдні, людзей білі жорстка.

Я асабіста бачыў і чуў, як білі сем соцень чалавек. Прыкладна з другой ночы да шостай раніцы аднаго хлопца ўдарылі 50 разоў гумавай дубінкай па спіне. Раніцай людзей і з ІЧУ, і з ЦІП выводзілі ва ўнутраны двор ЦІПа і працягвалі жорстка біць.

Самае страшнае відовішча было на другую ноч: людзі стаялі на каленях, іх прымусілі спяваць дзяржаўны гімн Беларусі і жорстка білі – па жываце, па спіне, па нагах.

Ані сваякам, ані сябрам не паведамлялі, дзе я знаходжуся. Жонка ў Санкт-Пецярбургу звярнулася ў беларускае консульства, бацька – у амбасаду Расійскай Федэрацыі ў Мінску. Расійскі консул у Менску аб'ездзіў чатыры ізалятары, ездзіў у Жодзіна, і паўсюль казалі, што расійца Дарожкіна там няма.

Я трапіў у нейкую шпіёнскую гісторыю: мяне хавалі ад консулаў. Консулаў, якія прыехалі сёння па мяне пры вызваленні, я пабачыў прыкладна на дзясяты дзень. Прычым яны прыходзілі штодня, штодня з ізалятара выводзілі грамадзян Расіі. Усіх даволі хутка вызвалілі. Я застаўся адзін. І толькі ў мінулы чацвер, на дзясяты дзень, я сустрэўся з расійскім консулам. Ён наогул думаў, што я ляжу дзесьці ў сутарэннях збіты і мяне баяцца ім паказаць.

Консула дапусцілі толькі 20 жніўня. Пасля таго, як брат Павал знайшоў мяне ў спісах на Акрэсціна.

Два першыя пратаколы склалі пры затрыманні ў Кастрычніцкім РУУС. На Акрэсціна з'явіўся яшчэ адзін пратакол, нібыта я грамадзянін Расійскай Федэрацыі, але жыву ў Мінску.

І ў той жа час, калі я быў затрыманы і знаходзіўся ў Кастрычніцкім РУУС, я, як выявілася, быў на праспекце Пераможцаў, 93 і крычаў «Стоп, таракан!» і «Свабоду Статкевічу!» Прабачце, але я сапраўды не ведаю, хто такі Статкевіч. То бок у суме на мяне склалі ажно тры пратаколы. Мне сказалі: падпісвай, што згодны, і праз дзве гадзіны выйдзеш са штрафам. Гэта было 10 жніўня.

Але 11 жніўня, мабыць, наказ памяняўся, і прайшоў першы суд. У ЦІП на чацвёрты паверх прыгналі каля дзясятка суддзяў – з Маскоўскага, Фрунзенскага і іншых раёнаў. Судзілі па камерах, а камеры былі перапоўненыя прыкладна ў 8 разоў. На першым судзе мне прысудзілі 7 сутак арышту.

Другі суд быў 13 жніўня.

Прыехала супрацоўніца аддзелу грамадзянства і міграцыі Кастрычніцкага раёну. Судзіць мяне мусілі паводле двух пратаколаў. Я сказаў суддзі, што мяне ўжо адзін раз асудзілі на 7 сутак. Суддзя дадала яшчэ 14 сутак. То бок атрымалася за 3 пратаколы па 7 сутак – у суме 21 дзень!

Далей першыя два пратаколы зніклі. Як яны з'явіліся з паветра, так і зніклі.

Пасля другога суду мяне перавялі ў камеру, дзе засталіся 4 чалавекі неасуджаныя, а ўсіх астатніх павезлі ў Жодзінскую турму. Мяне таксама збіраліся перавезці ў Жодзіна.

Мне пашанцавала: натрапіў на аднаго з нешматлікіх адэкватных супрацоўнікаў ва ўсім ЦІПе. Я яму растлумачыў, што я грамадзянін Расіі. І ён сказаў, каб з мяне знялі два прысуды і перавялі ў камеру з іншаземцамі.

Там былі хлопцы з Швейцарыі, Турцыі, Польшчы, Туркменістане, Таджыкістане, па пары расійцаў і ўкраінцаў з Данбасу. Украінцаў білі вельмі жорстка: нібыта «яны прывезлі сюды Майдан». У аднаго вока заплыло крывёю, у другога перабітыя ногі і ён 4 дні не мог стаяць. Ім усім супрацоўніца АГіМ выпісала штрафы па 30 базавых. Іншаземцаў адпусцілі. А мне ў пашпарт паставілі штамп аб тэрміновай дэпартацыі.

На наступны дзень зноў з'явілася супрацоўніца АГіМ, якая паведаміла, што мяне выпусцяць на волю 23 жніўня ў 21:30, а літаральна праз 2,5 гадзіны, апоўначы 24 жніўня, я павінен пакінуць тэрыторыю Рэспублікі Беларусі. І цягам 5 гадоў не маю права наведваць сваю радзіму.

З Акрэсціна мяне сустракалі брат Павал і супрацоўнікі амбасады РФ у Беларусі. Яны адразу ж накіраваліся ў бок мяжы, каб паспець да поўначы давезці мяне да Смаленска".

Паводле svaboda.org




Міхаіл Дарожкін выходзіць з турмы

## Беларускі каляндар памятных дат на верасень 2020 года

**1 верасня**
- 105 гадоў таму, у 1915-м, нарадзіўся Масей Сяднёў, літаратар, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр у 2001-м.

**3 верасня**
- 60 гадоў таму, у 1960-м, памёр Міхась Васілёк (сапр. Касцевіч), паэт.
- 40 гадоў таму, у 1980-м, памёр Мікола Дучыц, мастак.
- 30 гадоў таму, у 1990-м, памёр Міхась Дубянецкі, грамадскі дзеяч, кнігавыдавец.

**6 верасня**
- 115 гадоў таму, у 1905-м, нарадзіўся Віктар Казлоўскі, паэт. Памёр у 1975-м.
- 25 гадоў таму, у 1995-м, памёр Павел Масленікаў, жывапісец.

**10 верасня**
- 30 гадоў таму, у 1990-м, у Мінску прайшла ўстаноўчая канферэнцыя Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына“

**12 верасня**
- 75 гадоў таму, у 1945-м, нарадзіўся Рыгор Семашкевіч, пісьменнік. Памёр у 1982-м.

**14 верасня**
- 20 гадоў таму, у 2000-м, памерла Галіна Русак (дзяв. Родзька), мастачка, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

**16 верасня**
- 150 гадоў таму, у 1870-м, нарадзіўся Язэп Васілевіч, археолаг. Забіты ў 1934 г.

**17 верасня**
- 160 гадоў таму, у 1860-м, нарадзіўся Кандрат Лейка, пісьменнік.

**19 верасня**
- 115 гадоў таму, у 1905-м, нарадзіўся Янка Туміловіч, паэт. Памёр у 1938-м.

**20 верасня**
- 70 гадоў таму, у 1950-м, у Нью-Ёрку выйшаў першы нумар газеты „Беларус“.

**21 верасня**
- 45 гадоў таму, у 1975-м, памёр Міхась Лынькоў, празаік.

**22 верасня**
- 140 гадоў таму, у 1880-м, памёр Уладзіслаў Сымановіч, лекар.

**23 верасня**
- 110 гадоў таму, у 1910-м, нарадзіўся Юльян Сергіевіч, паэт, мастак. Памёр у 1976-м.

**25 верасня**
- 175 гадоў таму, у 1845-м, памёр Юстын Нарбут, гісторык.
- 125 гадоў таму, у 1895-м, нарадзілася Ванда Лёсік (дзяв. Лявіцкая), пісьменніца. Памерла ў 1968-м.
- 110 гадоў таму, у 1910-м, загінуў Канстанцін Валасовіч, геолаг, хімік.

**26 верасня**
- 130 гадоў таму, у 1890-м, нарадзіўся Іосіф Мацюкевіч, мовазнавец. Расстраляны ў 1938-м.

**29 верасня**
- 140 гадоў таму, у 1880-м, нарадзіўся Сяргей Сахараў, этнограф. Памёр у 1954-м.

**30 верасня**
- 15 гадоў таму, у 2005-м, памер Змíцер Кісель,журналіст.

**Беларусы ў свеце**
№ 8 (219), жнівень 2020

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацэнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27